


ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл; **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётнаю поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Калоскамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“

THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 18 (502) — Нядзеля, 1 травеня 1960 — ГОД ВЫДАНЬНЯ 14

# Тэндэнцыя савецкай палітыкі напярэдадні нарады на высокай узроўні

Апошнімі часамі штораз ясьней зарысоўваецца агульная палітычная канцэпцыя, зь якой савецкае кіраўніцтва прадугледжвае выступіць у травені на нарадзе кіраўнікоў урадаў ЗША, Ангельшчыны, Францыі й Савецкага Саюзу.

Аналізуючы савецкую вонкавую палітыку апошніх гадоў, можна пераканацца ў тым, што дачыненьне савецкага кіраўніцтва да ідэі скліканьня гэтае канфэрэнцыі ня было заўсёды аднолькавым.

Прыблізна два гады таму Хрушчоў гарэў жаданьнем як найхутчэй дабіцца скліканьня гэтае нарады. Савецкая дыпляматыя ды й сам Хрушчоў выступалі з самымі рознымі дэмаршамі з мэтай сьхіліць заходнія дзяржавы да ажыцьцяўленьня гэтай ідэі. Справа дайшла да таго, што хутчэйшага скліканьня нарады кіраўнікоў урадаў па ўсім Савецкім Саюзе «патрабавалі» калгасныя й фабрычныя сходы.

Пад канец 1959 году савецкае жаданьне заўважна астудзілася. У васноўных пытаньнях, такіх як бэрлінская й нямецкая праблемы, з савецкага боку пачасьцелі заявы, якія паказваюць на тое, што Савецкі Саюз у гэтых пытаньнях ніякіх уступак рабіць ня зьбіраецца (прыкладам мова Хрушчова ў Будапэшце, 1. 12. 1959).

Гэтая зьмена ў савецкай канцэпцыі паясьняецца тым, што да 1959 году Хрушчоў імкнуўся за ўсякую цану да таго, каб у поўнай наяўнасьці прапагандовых эфэктаў выступіць на аўтрытэтным міжнародным форуме.

Прыкладам, у часе ўзмоцненьня палітычнага напружаньня на Блізкім Усходзе Хрушчоў быў гатовы выступіць у ролі міратворцы навет у рамках паседжаньня Рады Бясьпекі Задзіночаных Нацыяў. Але тады ажыцьцяўленьню гэтага праекту перашкодзіў супраціў камуністычнага Кітаю.

У 1959 годзе паложаньне зьмянілася. Наведаньне Савецкага Саюзу брытанскім прэм'ерам Макмілянам, паездка Хрушчова ў ЗША, а потым у Францыю ды назначаны прыезд Айзэнгаўэра ў Савецкі Саюз далі магчымасьць Хрушчову выступаць на самых розных і найбольш аўтарытэтных форумах сьвету ды прапагандова выкарыстаць гэтыя выступленьні ня толькі сярод грамадзтва вольнага сьвету, але і ўнутры Савецкага Саюзу, умацоўваючы гэтым самым свой собскі аўтарытэт і аўтарытэт савецкага кіраўніцтва ў цэлым.

Адсюль і выцякае пэўнае пахаладжэньне да нарады на найвышэйшай узроўні. Савецкае кіраўніцтва пачало аддаваць перавагу двубаковым перамовам, спадзяючыся пры іх дапамозе пасеяць пэўны разлад у заходнім сьвеце.

Аднак афіцыйныя заявы савецкага кіраўніцтва, публікацыі ў савецкай прэсе і, урэшце, апублікаваньне гэтак званага «Народнага пляну ў нямецкім пытаньні» з боку кіраўніцтва г. зв. Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікі, даюць поўныя асновы прыйсьці да вываду аб тым, што савецкае кіраўніцтва наважыла як найбольш удала для сябе выкарыстаць перамовы ў Парыжы, пры чым выкарыстаць іх у двух дакладна азначаных кірунках:

1) Прапагандовае выступленьне на высокім форуме ў пляне канчатковага пераканаленьня сусьветнага й савецкага грамадзтва ў міралюбнасьці савецкай вонкавай палітыкі;

2) Канцэнтраваньне перамоваў на некаторых аспэктах нямецкай праблемы з мэтай дасягненьня выгадных для савецкай палітыкі разьвязак у радзе зьвязаных зь ёй пытаньняў.

Неабходна адцеміць, што адпаведная прапагандовая падрыхтоўка была пачатая з савецкага боку ўжо ў пачатку бягучага году. Заключаецца яна ў імкненьні максымальна дыскрэдытаваць палітыку ўраду Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі, самога Адэнаўэра і, у запраўднасьці, усё жыхарства Заходняе Нямеччыны ў цэласьці ў самых розных колах вольнага сьвету.

Зразумела, напады савецкае прапаганды ў гэтым кірунку зусім ня новыя, але іх інтэнсыўнасьць апошнімі часамі асабліва ўзрасла. Тут трэба адцеміць усебаковае й хітрае выкарыстаньне антысэміцкіх выступленьняў, магчыма, у пэўнай ступені навет адумыслова для гэтай мэты справакаваных. Сюды належыць таксама й застрашваньне «нямецкай небясьпекай», вяршыня якога была дасягнута Хрушчовам у ягоных шматлікіх выступленьнях у часе падарожжа па Францыі. І, урэшце, апошнія штрыхі гэтай кампаніі накіраваныя на тое, каб канчаткова закляймаваць Бон, як ворага аслабленьня міжнароднага напружаньня, якое агульнымі натугамі й з агульнай выгадай могуць і павінны дасягнуць на будучай нарадзе кіраўнікі ўрадаў 4-х вялікіх дзяржаваў.

У самых розных выступленьнях і артыкулах абвінавачваецца й сам канцлер Адэнаўэр у спробе перашкодзіць урадам заходніх дзяржаваў на надыходзячых перамовах. У нэофашызьме, які быццам пагражае супакою ўва ўсім сьвеце, абвінавачваецца ўся заходня-нямецкая дзяржава, увесь камплекс: урад, яго палітыка, увесь народ у цэлым.

Урэшце, савецкая прапаганда застрашвае сьвет небясьпекай быццам бы адроджанага й актыўна дзеючага фашыстоўскага руху, афіцыяльныя цэнтры якога з тактычных меркаваньняў знаходзяцца вонках Нямеччыны, аднак кіраўніцтва якім ажыцьцяўляецца беспасярэдня з Бону: «Устанаўленьне штаб-кватэры фашызму ў нэўтральнай краіне — гэта толькі манэўр, прызначаны адцягнуць увагу грамадзтва ад таго факту, што запраўдны ідэйны й арганізацыйны цэнтр нэофашызму знаходзіцца ў Заходняй Нямеччыне» (Радыё Масква, 13. 4. 1960).

Пры гэтым застрашваньні савецкая прапаганда стараецца падчыркваць, што нэофашызм накіраваны ня супраць камунізму, а ў сутнасьці супраць «буржуазнага», дэмакратычнага ладу.

Масавая кампанія дыскрэдытацыі Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі суправаджаецца таксама й пагрозамі заходнім саюзьнікам. У выпадку, калі заходнія дзяржавы будуць пагаджацца з палітыкай Адэнаўэра, Савецкі Саюз пагражае падпісаць сэпаратную ўмову з г. зв. Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікай. («Правда», 17. 4. 1960).

Гэты апошні акт з гледзішча Крамля будзе азначаць поўнае пераданьне правоў на Заходні Бэрлін ураду г. зв. НДР, паколькі тэрыторыя Бэрліну зьяўляецца быццам-бы законнай і неад'емнай часткай апошняй.

Імкненьне савецкага ўраду да вядзеньня перамоваў адносна бэрлінскай і нямецкай праблемаў з пазыцыі максымальных патрабаваньняў падчыркваецца і ў праклямаваных да 1-га травеня закліках ЦК КПСС:

«Народы ўсіх краін! Дабівайцеся поўнай ліквідацыі халоднай вайны й далейшага зьмягчэньня міжнароднага напружаньня! Змагайцеся за спыненьне ўсіх выпрабаваньняў і забарону атамнае й вадароднае зброі! Патрабуйце хутчэйшага заключэньня мірнае ўмовы зь Нямеччынай і ліквідацыі акупацыйнага рэжыму ў Заходнім Бэрліне!» (Заклік № 11, «Правда», 10. 4. 1960).

У артыкуле «Правды» з 14. 4. 60, якая войстра крытыкуе выступленьне дзяржаўнага сакратара ЗША Крыстыяна Гэртэра, чуваць некаторыя іншыя ноткі, што паказваюць крыху іншую накіраванасьць савецкай палітыкі. У гэтым артыкуле Гэртэр абвінавачваецца ў тым, што ён на будучай канфэрэнцыі прадугледжвае пытаньне аб Заходнім Бэрліне непарыўна зьвязаць у вадзін «пакет» з усёй нямецкай праблемай і з праблемай усеагульнага раззбраеньня ў цэлым. У артыкуле падчыркваецца, што «... у пытаньні Заходняга Бэрліну можна дасягнуць дамоўленасьці, хаця-б навет частковай і часовай». І тут-жа запэўніваецца

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Балтыцкае пытаньне ў савецкай нацыянальнай палітыцы

Як зазначалася ў папярэдніх нумарох «Бацькаўшчыны», Масква цяпер удзяляе шмат увагі змаганьню з «хвальшаваньнем» гісторыі нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу за межамі СССР, г. з. заходнімі гісторыкамі й гісторыкамі-эмігрантамі. Давёўшы ўнутры Савецкага Саюзу гістарыяграфіі нерасейскіх народаў да парадаксальных вынікаў, да жывое копіі гісторыі Расеі й расейскага народу, яна ўсімі сіламі імкнецца цяпер накінуць свае канцэпцыі й сваю волю Захаду. Шмат ужо ў СССР выдалася такіх «паясьняльных гістарычных працаў» зь гісторыі таго ці іншага падсавецкага народу, шмат было таксама, асабліва апошнім часам, затрачана часу на розныя сэсіі й канфэрэнцыі зь гісторыкамі савецкіх нацыянальных рэспублік для «выясьненьня сутнасьці буржуазнага хвальшаваньня гісторыі». Пералічаць іх і абагульваць іхныя вынікі мы тут ня будзем, але затрымаемся хоць-бы на савецкіх высілках ліквідацыі балтыцкага пытаньня.

Гэтае пытаньне зьвязанае з савецкім апраўданьнем расейскае палітыкі ў Прыбалтыцы, якая была запачаткаваная яшчэ Іванам Грозным у другай палавіне XVI стагодзьдзя ды застаецца актуальнай і цяпер. Як ведама, балтыцкія народы заўсёды імкнуліся й імкнуцца да нацыянальнае незалежнасьці, а таму балтыцкае пытаньне зьяўляецца войстрым і сяньня. Масква гэтаму пярэчыць, цьвердзячы, што балтыцкае пытаньне ўжо вырашанае, а таму каторы ўжо год вядзе войструю палеміку, як з балтыцкай эміграцыяй, так і сымпатызуючымі ёй заходнімі, асабліва амэрыканскімі гісторыкамі. Як-жа вядзецца гэтая палеміка, можа прыкладам быць артыкул сябры-карэспандэнта Акадэміі навук СССР Х. Х. Крууса (відавочна Эстонца ці Латыша па нацыянальнасьці), які быў апублікаваны ў 6-м нумары часапісу «Вопросы истории» за 1959 год пад загалоўкам «Балтыцкае пытаньне ў XVI ст. у замежнай гістарычнай літаратуры».

Ведама, у артыкуле Беларусі ня існуе зусім, хоць тады з Масквой пад час Лівонскай вайны галоўную ролю адыйгравала Вялікае Княства Літоўскае. Гэтае Княства ў артыкуле зьведзенае да сучаснае Летувы, а Польшча ці Рэч Паспалітая (злучаная Польска-Літоўскае гаспадарства) ваявала з Маскоўшчынай «за беларускія й украінскія землі». У балтыцкім пытаньні, якое ў артыкуле ўзятае ў чужаслоўе, Круус найбольш палемізуе з амэрыканскім гісторыкам У. Кірхнерам, які ў сваёй працы выказаў сымпатыю да незалежніцкага руху балтыцкіх народаў і асьветчыў, што «балтыцкае пытаньне зьяўляецца яшчэ ня вырашаным». Ён палемізуе зь Кірхнерам таксама за тое, што апошні выказаў думку, быццам балтыцкія народы, знайшоўшыся між двума вялікімі агрэсыўнымі сіламі — Расеяй і Нямеччынай — заўсёды былі й зьяўляюцца аб'ектам іхнай агрэсыўнай палітыкі, што вонкавыя сілы «сваёй ненасытнасьцяй і злом адыйгралі галаўнейшую ролю ў зараджэньні таго зьявішча, якое атрымала назоў «балтыцкае пытаньне».

Кранаючыся падзеяў XVI стагодзьдзя й адстайваючы савецкі пункт гледжаньня, Круус выказвае думку, што Маскоўшчына, ня маючы іншага, «дыпляматычнага» выхаду, справядліва пачала вайну зь Лівоніяй, каб гэтым самым здабыць сабе свабодны доступ да Балтыцкага мора. Гэтага патрабавалі «жыцьцёвыя неабходнасьці Расейскага цэнтралізаванага гаспадарства».

Як-жа з інтарэсамі балтыцкіх народаў, бо, як і сам аўтар прызнае, Маскоўшчына ня імкнулася вызваляць іх ад «чужаземнага прыгнёту»?

Тут Круус прыбягае да савецкае «спэцыфікі», якая быццам-бы павінна ўлічваць «розьніцу між мэтамі вонкавых сілаў»: якая агрэсыўная сіла «магла спрычыніцца да прагрэсу балтыцкіх народаў, а якая магла-б стацца толькі тормазам». Ведама, Маскоўшчына толькі магла несьці «прагрэс» балтыцкім народам, што яны й адчулі пасьля прылучэньня Прыбалтыкі да Расеі ў XVIII стагодзьдзі. «200 гадоў супольнага жыцьця» з расейскім народам былі для Прыбалтыкі «гадамі міру й разьвіцьця», а таму, ня гледзячы на некаторае нацыянальнае прыгнечаньне, «уваход Прыбалтыкі ў склад Расейскага гаспадарства зьявіўся прагрэсыўным, дадатнім фактарам у гістарычным лёсе мясцовых народаў». Гэта, як зазначае аўтар, «убедительно показали» савецкія гісторыкі.

Значыцца, пад увагу павінны брацца толькі «жыцьцёвыя» інтарэсы Расеі. Другія народы, а у дадзеным выпадку балтыцкія, могуць жыць і «прагрэсаваць» на расейскіх адходах.

Аднак падобны цынізм «савецкай нацыянальнай палітыкі» найлепш выяўляецца ў наступных цьверджаньнях Крууса: «балтыцкае пытаньне, — заяўляе ён, — магло канчаткова быць вырашаным у 1918 годзе, калі-б гэтаму не пашкодзілі імпэрыялістычныя сілы Захаду й мясцовая буржуазія». Яны быццам-бы сілай адарвалі прыбалтыцкія народы ад Расеі, не далі «народным масам разьвязаць нацыянальнае пытаньне згодна сваіх жыцьцёвых інтарэсаў». Балтыцкае пытаньне канчаткова было разьвязана толькі ў 1940 годзе «на аснове свабоднага волевыяўленьня народаў Прыбалтыкі», якое назаўсёды зьвязала іх з Савецкім Саюзам. Як гаворыць далей аўтар, калі сяньня на Захадзе намагаюцца займацца «клеветнической брехней о неразрешенном балтийском вопросе», дык гэта «адзін із спосабаў антысавецкай прапаганды, якая ськіваваная на распальваньне вайны супраць Савецкага Саюзу й ягонай неаддзельнай часткі — савецкай Прыбалтыкі». Ці гэта не ўльтыматум?!

Усім ведама, як разьвязалася балтыцкае пытаньне ў 1940 годзе, калі, пад пагрозай вайны, савецкая армія акупавала Прыбалтыку й калі сотні тысячаў сыноў і дачок прыбалтыцкіх народаў савецкае НКВД выгнала ў Сібір ці замучала на месцы. Ведама таксама гераічнае змаганьне прыбалтыцкіх народаў з

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

# Дэ Голь і Францыя

Нядаўнае падарожжа прэзыдэнта Дэ Голя ў Англію і тое прыняцьце, якое было яму зробленае, ягонае цяперашняе падарожжа спачатку ў Канаду, а потым у Задзіночаныя Штаты, ягоныя перамовы з кіраўнікамі гэтых дзяржаваў, і нарэшце, ягоныя прамовы й выступленьні ў Англіі й Канадзе — усё гэта выходзіць за рамкі звычайных падарожжаў прэзыдэнтаў ці кіраўнікоў урадаў.

Француская прэса й француская радыё, натуральна, прысьвячаюць вялікае месца усяму гэтаму. Прэзыдэнт Дэ Голь — гэта дзяржаўны дзеяч, гістарычнага значэньня якога ніхто ня можа адмаўляць. Ягоная прамова ў Англіі, якая выклікала такую спрыяльную ацэнку ангельскай прэсы, ягоныя выступленьні ў Канадзе даюць магчымасьць скласьці сабе яснае ўяўленьне аб тым, як ён разумее сэнс таго пэрыяду гісторыі, праз які цяпер праходзіць сьвет — гэта неабходнасьць палітычнага і эканамічнага аб'еднаньня Эўропы й салідарнасьці ўсіх заходніх краінаў; адзінства іхных інтарэсаў, пераканаеньне, што лёс сьвету залежыць ад таго, якім шляхам пойдзе ўся Эўропа. Для нікога не сакрэт, што паміж Англіяй й Францыяй да падарожжа Дэ Голя ў Англію йснавалі значныя разыходжаньні, асабліва ў справе Агульна-Эўрапэйскага Рынку, ролі Францыі ў Атлянтычным Пакце і ў некаторых іншых пытаньнях. Выступленьні Дэ Голя ў Англіі спрыялі таму, што гэтыя разыходжаньні страцілі тое значэньне, якое ім надавалася раней. Шлях да пагадненьня ў гэтых пытаньнях цяпер адкрыты.

Выступленьні Дэ Голя ў Канадзе таксама спрыялі больш правільнаму разуменьню з боку канадзкага ўраду. Разуменьню таго, як Дэ Голь уяўляе сабе ролю Францыі ў саюзе заходніх краінаў. Калі раней у англасаксонскіх краінах было ў пэўнай ступені распаўсюджанае пераканаеньне, што Дэ Голь як быццам-бы высоўвае Францыю наперад і думае, што ейны шлях — гэта ейны ўласны шлях, які можа й разыходзіцца з тым, па якім павінны ісьці іншыя заходнія дзяржавы, дык цяпер гэтае непаразуменьне зьліквідаванае. Францыя арганічна ўваходзіць у склад Эўропы, ейны саюз з Англіяй, Канадай і Задзіночанымі Штатамі — гэта ня эпізод і не выпадковасьць — ён гістарычна апраўданы й неабходны.

І для Ангельцаў і для Канадцаў і для Амэрыканцаў бясспрэчнае тое, што Дэ Голь запраўды мае права гаварыць ад імя Францыі, і таму ягоныя словы маюць большую вагу, чымся словы якога-небудзь іншага францускага дзеяча. Але ён вызначаецца й яшчэ адным — здаровым сэнсам і разуменьнем таго, што сьвет не стаіць на месцы, а эвалюцыянуе. Доказ гэтага — палітыка 5-ай Рэспублікі ў дачыненьні да былых францускіх калёніяў Афрыкі. Незалежнасьць Фэдэрацыі Малі, незалежнасьць Мадагаскару, прыяцельскае палітычнае й эканамічнае супрацоўніцтва з учарашнімі калёніямі — гэта адзіны шлях, які дыктуецца ў аднолькавай ступені й здаровым сэнсам і гістарычнай мэтазгоднасьцяй: шлях, па якім пайшла 5-ая Рэспубліка. Зразумела, ёсьць альжырская праблема, аб якой нельга забывацца, але ейнае разьвязаньне непараўнальна цяжэйшае й больш складанае, чымся пытаньне аб незалежнасьці Мадагаскару або Малі.

У канцы некалькі слоў аб іншай справе. Француская прэса войстра крытыкуе палітыку ўраду Паўдзённай Афрыкі. Ягонае сьляпое нежаданьне адмовіцца ад расавай дыскрымінацыі, жорсткія мерапрыемствы супраць работнікаў-нэграў, якія дамагаюцца, каб ім далі найбольш элемэнтарныя людзкія правы. Гэтая рэакцыя францускай прэсы стаецца асабліва зразумелай, калі ўлічыць тое, што расавая дыскрымінацыя Францыі зусім чужая; калі ўлічыць тое, што 5-ая Рэспубліка, ачольваная прэзыдэнтам Дэ Голем, вядзе ў чорнай Афрыцы тую палітыку, якая не патрабуе ні абароны, ні апраўданьня, а становіць сабой адначасова перамогу й справядлівасьці ды гістарычнай неабходнасьці.

# Тэндэнцыі савецкай палітыкі...

(Працяг з бач. 1)

ў гатовасьці савецкага ўраду «...зрабіць усё для разьвязаньня нямецкае праблемы на аснове прыймальнай і для заходніх дзяржаваў» **у тым выпадку, калі ўсе гэтыя пытаньні будуць разглядацца не ў абавязкавай залежнасьці адно ад другога.**

Дамагаючыся гэтага савецкае кіраўніцтва імкнецца ўсімі магчымымі сродкамі дабіцца практычных удачаў у праблеме раззбраеньня Заходняе Нямеччыны. Дзеля таго гэтае пытаньне бальшавікі хочаць бачыць поўнасьцяй выдзеленае з агульнага комплексу праблемы раззбраеньня. Падмацоўваючы ўсё гэта акцыяй дыскрэдытацыі Заходняй Нямеччыны й яе ўраду, **Крэмль бачыць у гэтым першы й галоўны крок да разбурэньня абароназдольнасьці заходняга сьвету.**

Ёсьць і іншыя палітычныя меркаваньні, якімі кіруецца савецкі ўрад, дабіваючыся разьвязаньня раду пытаньняў агульнанямецкай праблемы.

Крэмль, відаць, дастаткова ведае, што ў пытаньнях агульнага раззбраеньня, хаця яно эканамічна для яго й было-б выгадным, апрача агульнадэкляратыўных фразаў наўрад ці будзе магчымым чагосьці дасягнуць. Практычныя магчымасьці разьвязаньня гэтае праблемы заўсёды будуць тарпэдавацца ягонай собскай адмовай ад стварэньня сыстэмы эфэктоўнае кантролі.

Дзеля гэтага прэстыж анёла-міратворцы на канфэрэнцыі ў Парыжы Хрушчоў, выглядае, прадугледжвае заслужыць якраз у праблеме «ратаваньня» сьвету ад «нямецкага рэваншызму» ды ў некаторых, да нічога не забавязваючых, кампрамісах у разьвязаньні бэрлінскага пытаньня. Праўдападобна, ня выключана магчымасьць і таго, што Хрушчоў у Парыжы прадставіць стары ў сутнасьці, а магчыма навет новы паводля формы праект стварэньня «сыстэмы калектыўнае бясьпекі» ў Эўропе, у які ўвойдуць тыя ці іншыя прапановы для стварэньня «зоны міру» ў ейнай цэнтральнай частцы. 18. 4. 1960 Радыё Масква паведаміла, што «Савецкія людзі лічаць, што ў пошуках міру трэба йсьці ня шляхам скалочваньня замкнутых ваенных груповак і ўдзелу ў іх, а шляхам стварэньня сусьветнай сыстэмы калектыўнай бясьпекі дзяржаваў».

Другі кірунак, які вызначыўся ў савецкай палітыцы для правядзеньня на нарадзе на найвышэйшай узроўні, заключаецца ў тым, каб выкарыстаць канфэрэнцыю ў Парыжы як вонкавы форум для прапагандовага эфэкту — праклямацыі міжнароднай міратворнай місіі савецкай вонкавай палітыкі.

Гэты кірунак будзе ў першую чаргу ажыцьцяўляцца ў пляне дэкляратыўных выступленьняў Хрушчова аб «поўным і ўсеагульным» раззбраеньні.

Увесь гэты задуманы прапагандовы трык разьлічаны ня толькі на шырокія колы грамадзкасьці вольнага сьвету, але на выкліканьне адпаведнага ўражаньня на жыхарства Савецкага Саюзу.

Пацьвярджаецца гэта й тым, што апошнімі часамі ў савецкай прэсе і ў выступленьнях буйнейшых савецкіх кіраўнікоў Хрушчоў абвяшчаецца, як найбольшы змагар за мір, ратавальнік міру ў міжнародных маштабах.

Імкненьне да абвяшчаньня міжнароднай міратворчай місіі савецкага ўраду й асабіста Хрушчова сумяшчаецца, аднак, і зь іншымі супрацьлежнымі тэндэнцыямі.

Так у красавіковым нумары, выдаванага на 19-ці мовах часапісу камуністычных партыяў сьвету («Проблемы мира и социализма», № 4, 1960), сябра Прэзыдыюму ЦК КПСС О. Куусінэн, які кіруе ў крамлёўскай верхавіне пытаньнямі разьвіцьця сусьветнага камуністычнага руху, звярнуўся да кампартыяў сьвету із супакаяльным паясьненьнем таго, што фактычна азначае праводжаная сяньня савецкая палітыка міру.

Прадстаўленая ім канцэпцыя заключаецца ў тым, што палітыка аховы міру, нацыянальнай незалежнасьці, сувэрэнітэту, змаганьня з каляніялізмам і фашыстоўскім рэванжызмам зьяўляецца нічым іншым, як падрыхтоўчай фазай змаганьня з капіталізмам за канчатковую перамогу сацыялізму-камунізму.

Куусінэн абумоўлівае гэта тым, што:

1) «...удачы й перамогі ў змаганьні за палітычную дэмакратыю, мір, нацыянальную незалежнасьць і сувэрэннасьць і г. д. ствараюць больш спрыяльныя палітычныя ўмовы для змаганьня за сацыялізм».

2) «...змаганьне за агульнадэмакратычныя інтарэсы аслабляе рэакцыйную буржуазію...»

3) «...на шляхох змаганьня за такія актуальныя інтарэсы працоўных лягчэй за ўсё магчыма падняць і згуртаваць найбольш шырокія масы народу супраць пануючага капіталізму...»

4) «...змаганьне за агульнадэмакратычныя мэты становіць сабой добрую школу палітычнай арганізацыі, згуртаванасьці й гарту працоўных масаў. Яна шчыльна падводзіць масы да разуменьня таго значаньня, якое мае пытаньне аб уладзе, аб тым, у чыіх руках знаходзіцца дзяржава. А гэта — галоўнае пытаньне ў сацыялістычным перавароце».

Такім чынам напярэдадні нарады на вышэйшай узроўні ўсё ясьней і ясьней раскрываецца канцэпцыя савецкай вонкавай палітыкі.

У першым пляне ў дэкляратыўных заявах аб раззбраеньні на канфэрэнцыі будзе абвяшчацца міжнародная місія савецкага міратворства. Адначасова з гэтым кампартыі ўсяго сьвету на загад з Масквы будуць выкарыстоўваць натуральнае імкненьне жыхарства зямное кулі да міру ў кірунку мабілізацыі й арганізацыі сілаў да канчатковага розыгрышу за сусьветную перамогу камунізму.

У пляне практычных перамоваў на канфэрэнцыі савецкае кіраўніцтва, відаць, мае намер разьвязваньнем нямецкага й бэрлінскага пытаньняў вясьці хітрую ігру, накіраваную на аслабленьне ваеннай і палітычнай абароназдольнасьці вольнага сьвету.

(«Аналіз бягучых падзеяў у СССР»)

# Тамсама будзеце!

## АДКРЫТЫ ЛІСТ ЗЕМЛЯКОМ

**Ад Рэдакцыі:** Зьмяшчаем гэты голас старога эмігранта з Амэрыкі ў парадку дыскусіі й без камэнтароў, спадзяваючыся, што выкліча ён развагі й водгукі з боку нашых эмігрантаў у ЗША, якім ахвоча дадзём у нас месца.

*

Некалькі пакаленьняў мы тут аджылі, ад нікога не дазнаўшы сантымэнту ў такім аспэкце, у якім новыя землякі нам аказалі ў «Куды дзеліся» (гл. «Б-на» **№ 9 (493). Яны із сьлязамі пералісталі** балонкі нашага мінулага. Ацанілі, падлічылі, узнагародзілі нашыя заслугі. Грудзьмі сталі ў вабароне нашага ўкладу. За дазнаныя крыўды пажалелі ды гатовы нас пад сваё крыльле ўзяць, каб ратаваць ад грознае долі як толькі знойдуць, «куды дзеліся».

Хаця ўвесь гэты клопат лішні й непакой аб нашай долі бязь ніякіх асноваў, але самы намер запраўды ўзрушае. Таму, хай нам будзе пазволена вам разам і кажнаму паасобку падзякаваць тут. За вашыя стараньні, апеку, парады, із свайго боку радыя гэтым самым адудзячыцца. Перад гэтым толькі зацемім, не маглі-ж мы чакаць аж да сяньня на ратунак ад новых землякоў; а мусілі будаваць жыцьцё на ўмовах гэнага часу. Ужо тады бачылі мы й да сяньня пераконаны, што гэта адзіны правільны выхад. «Шчасьлівейшага» ня хочам і ня верым у такі.

**Мы былі гатовыя да таго, што раней ці** пазьней растане вашая ледзяная ізаляцыя ад нас, і таму цяпер ня дзівімся гарчыні вашага трывожнага жаданьня злучыцца з намі. Каб супакоіць вас перад страхам, што дарогі нашыя могуць ня зыйсьціся, суцешым запэўненьнем: вы ўжо ступілі на правільную дарогу, і як прыйдзе час, тамсама будзеце. Пераважна людзям цяжка паверыць у зьдзейсьненьне жаданага, таму ня дзіва, што ня ўсе дадуць веры нашаму запэўненьню, пакуль не пачуюць у дэталях: як, калі, ці напэўна. Адказ на падобныя пытаньні мы папярэдзім паясьненьнем нашага становішча да справаў вамі з дакорам парушаных.

Наша жыцьцё вы аглядаеце вачамі навічкоў-прышэльцаў. Самі не спраўляецеся пасьпяваць за фантазіяй сваіх «арганізацыйных» помыслаў, а хочаце, каб мы за імі ганяліся. Зразумела, вам усяроўна дзе, як, чым, якой цаной пачынаць сваё асяленьне, нічым не рызыкуеце; таму вам лёгкадумна здаецца, што ўсім старажылам таксама ня зробіць розьніцы перайначыць сваё. А вось пажывеце на адным месцы, у вадных абставінах хаця гадкоў 20, запусьцеце ўсе корані ў грунт, дык пераканаецеся, як нялёгка каранём з глебай расстацца.

А мы ці адну дваццатку пражылі й ні разу не давялося нашаму дрэву за салаўямі лётаць, а заўсёды салаўі сэнсацыйных «непахісных» ідэялаў прылятаді на нашыя сукі. Вось і цяпер, шмат вашых найбольш галасістых запявалаў у нас ужо загнязьдзілася й сьмехам заліваюцца із сваіх нядаўных трэляў. Не пераходзіць-жа нам у ваш лягер, як нас заклікаеце, адкуль вашыя сябры да нас уцякаюць. Не рабіць-жа нам таго, з чаго вашыя перадавікі самі сьмяюцца. «Высокія ідэі» аказаліся нонсэнам для іх у ваблічча нашых «стандартаў» раскошы. За ўсякую цану ўзяліся нас даганяць, пераганяць. Малайцы, шыбка зарыентаваліся, не здарма ў вас перадавікамі былі. Як хочаце, іх называйце, а для нас яны — першы прадвесьнік усімі вамі пажаданага, агульнага злучэньня з намі. Другі прадвесьнік — з палёгкай сьцьвярджаеце, што нарэшце выблыталіся зь мітусьні «першага пэрыяду». Трэйці — «энтузіязм дзіву годны», зь якім усе і ўсі кінуліся пачынаць другі пэрыяд будаўніцтва цэркваў.

Толькі па трэйцім прадвесьніку мы пачалі зьвяртаць на вас увагу, інакш наагул не адзываліся-б. Хоць з трыюмфам абвяшчаеце аб «пачацьці» будаўніцтва цэркваў, поўнага даверу яшчэ ня маем, ведаючы, што вы вялікія майстры ўсякіх «пачынаньняў»: што галава — то новая ідэя. У «першым» пэрыядзе чаго толькі не «пачалі», а закончылі хоць адно? Мы былі пэўныя, што як вышуміцеся з паваенных настрояў усякага пачынаньня, а як прыдзе пара асяляцца настала, дык падумаеце і аб царкве. Здаецца, пачынаеце ўжо даходзіць і да гэтай сьпеласьці, таму і толькі таму заўдзячаеце гэтыя радкі. Дагэтуль вы «будавалі» толькі папяровыя справы дробным коштам і бязь ніякае рызыкі, а цяпер бярыцёся за трывалае з каменьня, зьвязанае зь вялікім коштам і рызыкай. На колькі гэта справа для вас новая, нязнаная, нагэтулькі нам яна старая, цэнная; таму, каб прычыніцца хоць у нейкай меры да пашыраньня яе, хочам падзяліцца з вамі нашым даўгалетнім дазнаньнем.

**У часе будаўніцтва спаткаецеся зь неспадзеўкамі прыемнымі, а таксама й прыкрымі, што даводзяць навет да краху будаўніцтва, калі-б іх не папярэдзіць; каб усьцерагчы вас ад гэткай магчымасьці, прааналізуйма абставіны, у якіх будзе йсьці будаўніцтва. Цяжкавата, дый шмат часу бярэ, прыняць пастанову што да памераў і коштаў будаўніцтва. Хоць больш клапатлівы, але сама прыемны й радасны працэс яго. Затое сама прыкры, найцяжэйшы, а найбольш найдаўжэйшы — пэрыяд сплачваньня банкаўскіх даўгоў. Як пачынаць, гаварыць не даводзіцца, а ў бальшыні выпадкаў гэты крок вы ўжо зрабілі. Але й пры першым кроку ўжо спаткнуліся зь першай неспадзеўкай, гэтым разам прыемнай. З гордасьцяй пішаце: «зьявіўся нябывалы энтузіязм». Вам і гэта навіна, неспадзеўка — нам-жа старая быль. Гэтак і мы радаваліся, пачынаючы кажную царкву, і сяньня з прыемнасьцяй падзяляем ваш уздым. За год, два, дух энтузіязму падмацуе пачуцьцё адказнасьці за прынятый абавязак, а галоўнае — дасьпее поўная сьведамасьць важнасьці, сьветласьці мэты, пры якой усе іншыя ідэі гаснуць. Навет не заўважыце, калі і як усе дасюлешнія «вельмі важныя» справы й клопаты згаснуць у сьветлай мэце царквы. Дзівіцца й ганарыцца будзеце з новага, датуль нязнанага вам пачуцьця. Бескалёрнае жыцьцё боўтаньня на гэтым сьвеце набярэ глыбокага сэнсу. Зьявіцца нязбітная самапэўнасьць собскай вартасьці, паклікаьня навет таленту, аб якіх самі й ня думалі. Адмалодзіцеся, адродзіцеся ў новых людзей. Дзівіцца будзеце, адкуль новая энэргія ў вас бярэцца, адкуль гэтулькі вольнага часу ў вас зьявіцца.** Увесь час праводзіць пры будаваньні будзеце — гадзіна, адданая ня ў справе будаўніцтва, нясумленнасьцяй выдасца, а даляр, адданы на карысьць іншай арганізацыі — раськідонствам.

Ужо вы адчулі ў сабе нябывалую ахвярнасьць, якая не малець, а расьці будзе. Ахвярнасьць для царквы ня мае сабе роўнай. Яна бескарысная, безагляндая, неабмежаваная; выплывае не з абавязку як для ўсяго іншага), а з патрэбы духовай, і таму чым большая, тым большую пацеху, благадаць ахвярадаўцы прыносіць. Падобнага духовага эфэкту чалавек не адчувае ў дачыненьні да сьвецкіх арганізацыяў, таму нармальна, што патрэба ўсіх іншых арганізацыяў мусіць адступіць і адступае перад патрэбай царквы. Наколькі ідэя

# Балтыцкае пытаньне..

(Працяг з бач. 1)

расейскай агрэсіяй у 1918—1920 гадах, якое сяньня Масква называе «імпэрыялістычнай інтэрвэнцыяй» ці «буржуазнай змовай». Гэта мусяць сяньня паўтараць таксама й прыбалтыцкія савецкія гісторыкі, называючы запраўднага агрэсара «нацыянальным збавіцелям» ды яшчэ цьвердзіць, што «савецкая ўлада з моманту свайго зараджэньня ніколі ня ўжывала ў дачыненьні Прыбалтыкі прынцып гістарычнага права Расеі на Прыбалтыку».

Як бачым, няма канца савецкаму цынізму, які й сяньня здушвае найменшыя праявы нацыянальнага жыцьця ў Прыбалтыцы, і ўсё ў імя тае самае «нацыянальнае незалежнасьці» прыбалтыцкіх народаў, у імя іхных «нацыянальных правоў». Савецкая Расея ня прэтэндуе быццам на «гістарычныя правы» царскае Расеі, але ў той-жа час падаўляе нацыянальныя выступленьні ў імя «неразьдзельнай Савецкай Расеі», як гэта было ў 1918—1920 гадах ці ў 1940 годзе, змагаецца з «імпэрыялістычнымі заходнімі агрэсарамі», што імкнуліся быццам-бы «расчленить Россию», навет бяз эпітэту «савецкую», як гэта сьцьвярджаў савецкі гісторык В. Хвастоў у 1957 годзе ў спэцыяльным артыкуле «Асноўныя этапы вонкавай палітыкі Савецкага гаспадарства за сорак гадоў».

Як бачна з гэтага маленькага агляду, мы стаім, такім чынам, перад узрастаючым расейскім шавінізмам і народазабойствам, бо нацыянальнае забойства раўназначна народазабойству наагул. А таму, знаючы пад якім нацыянальным прыгнечаньнем жывуць нашыя суродзічы на бацькаўшчынах, мы тут на эміграцыі супольнымі сіламі мусім асьведамляць вольны сьвет зь гістарычнай праўдай аб нашых народах, асьведамляць зь іхнай праўдзівай гісторыяй, нацыянальнымі імкненьнямі й нацыянальным змаганьнем. Гэта сьвяты абавязак кажнае палітычнае эміграцыі, які нельга замяніць тымі ці іншымі сымпатыямі нашых заходніх прыяцеляў, тымі ці іншымі выпадковымі працамі заходніх гісторыкаў.

П. Залужны

Уладзімер Глыбінны

# Цудатворны знак

## (Апавяданьне эмігранта)

Працяг з № 17 (501)

— Пачакай, не перабівай чалавека, — трэба ўсё па парадку! — азваўся на гэты раз супраць жонкі Апанас Ягоравіч. Яўхім Панцялеймавіч лыпнуў вачыма ў знак згоды з Апанасам Ягоравічам. Ганна Пятроўна змоўкла, на дзіва нічога не адказаўшы свайму чалавеку. Відаць, крыху дайшло і да ейнае сьведамасьці, што не начасе яна ўставіла свае пяць пальцаў.

— А вось цяпер якраз і да яе дайшла чарга. Дык, вось, — спакойна й паважна далей гаварыў Паўла Іванавіч, —сяджу я на лаўцы й думаю горкую думку.

— Каб яе чорная немарач скруціла, гэтую ўладу, што й пасьля колькі-гадняе пакуты помсьціць яшчэ й на гэтай уяўнай волі, якая абяртаецца мне ўжо яшчэ горшым пеклам. Там, у лягеры, прынамсі давалі працу й мазалямі запрацаваны хлеб. А тут і гэтага няма. Такіх скрозь загарадак панаставілі, што й не прабіцца праўдаю. Хвароба вам у бок. Вось паеду да бацькоў, выстараюся там паперы, а тады здохнеце, а не даведаецеся, адкуль я й хто я. Пэўна-ж, унівэрсытэт не адмовіць выдаць паперку аб тым, што там вучыўся з такога па такі год. А там можа Бог дапаможа й яшчэ якую здабыць. Вось каб якую-небудзь аб апошнім мейсцы працы. Тады-б маё выгнаньне як у ваду затонула-б. Ніякаму лысаму чорту ні сказаўбы. Досыць пакутваць. Няма дурных, дазнаньне апошніх дзён многага навучыла. Баста! — гаварыв, я сабе самому!

Тым часам, ці то заўважыўшы паводля засмучанага твару маё гнібеньне ці можа й звычайна па звычаю прыставаць да кажнага, пажылая чарнявая, з кручанымі, як смоль, валасамі, у даўгім пярэстым капоце, з маністамі на шыі ды тузінаю картаў у руцэ, цыганка прапанавала пагадаць. Толькі за адзін рубель яна абяцала расказаць пра мінулае, сучаснае й будучае. Яна спрытна вялікім пальцам перагортвала карты ў правай руцэ, а левую выцягвала ўперад за рублём.

— Эх, была-ня-была, рубель — грошы невялікія. Цікава пазабаўляцца тым, як яна будзе хлусіць ды несьці нясусьветную бяссэньсіцу пра мой нязвычны лёс, — наважыўся я й дастаў ёй рубля. Яна прысела на лаўку.

— Малады чалавек, у вашым нутры адбываюцца цяпер вялізарныя завірухі, — пачала яна вычытваць ізь зьнятае мною калоды картаў, раскладаючы іх на сваёй пярэстай спадніцы, што пакрывала прастору паміж ейнымі каленьмі. — Вы перажылі ў сваім жыцьці заламаньне, якое зусім зьіначыла вашае жыцьцё, сапсавала вам кар'еру, не дало магчымасьці займацца любаю вашаму сэрцу справаю. Карты паказваюць, што вы цяпер з казённага дому, — адразу-ж моцна зьдзівіла яна мяне сваім прагнозам. То-ж я нічым ад іншых тут не адрозьніваюся, на мне неблагі сіні гарнітур, адмыслова прыхаваны да дню вызваленьня, новая кашуля, гальштук, не благія камашы, словам — вопратка якой могуць пазайдросьціць шмат хто з гэтых на волі людзей. А як-жа яна пазнала, што я запраўды з «казённага дому». А казённы дом — гэта-ж турма, даўно ведама ў народзе. Я пачаў больш даверліва й з большаю цікавасьцяй слухаць далей.

— Вы перажываеце цяпер найцяжэйшы момант у вашым жыцьці. Сэрца вашае ные па якіхсьці двух, чарнявай і белай масьці, старэйшых людзей далёка на бацькаўшчыне. Але яны на вас маркоцыцца ня менш. Уся іх радасьць і ўцеха ў думках пра вас.

«Гэта-ж акурат праўда пра маіх маці й тату», — яшчэ больш зьдзіўлёна зацеміў я ўпотай аб трапнасьці здагадак варажбіткі.

— Вы іх хутка пабачыце, вас сустрэнуць шмат хто з вашых сяброў маладосьці. Будзе вялікі пір і вялікая радасьць. Вашае гора разьвеецца, як туманы пад сонейкам, — казала яна зноў пасьля другога здыманьня калоды мною.

— І вас яшчэ чакае вялікая дарога ня толькі на бацькаўшчыну, але далёка за сіні акіян. Там вы адшукаеце сваё шчасьце, будзеце мець дзяцей і закончыце жыцьцё пад восемдзесят сёмым годам — вычытала яна зноў мой лёс з апошняе зьнятае мною й раскладзенае ёю калоды картаў.

Я не шкадаваў, што выдаткаваў рубля. Запраўды, яна мяне пацешыла. Але як-бы я ня ставіўся да ейнага прароцтва, я ня мог ня даць асаблівае ўвагі таму, што ўжо адпавядала фактам. Пэўна-ж, няма патрэбы даваць ёй веры, яны напрактыкаваліся за гады варажэньня гаварыць гэткімі агульнымі выразамі, што яно можа падыйсьці бадай-што да кажнага чалавека. Урэшце-рэштаў чалавечы лёс усіх падобны й навет у шмат чым аднолькавы: усё круціцца каля вечнага калавароту нараджэньня, каханьня, змаганьня за існаваньне й сьмерці. Але-ж тут са мною быў асаблівы выпадак, і ні па якіх знадворных адзнаках яна не магла здагадацца аб маёй асабістай долі. Чаму-ж яна адразу вызнала мяне з казённага дому? Але самае галоўнае тое, што запраўды я хутка наведаў сваіх бацькоў. Аб маім прыезьдзе дазналіся дзе-каторыя сябры літаратурнае маладосьці. За колькі дзён дзе-хто зь іх наведаў мяне. Не абыйшлося ў гэтых выпадках бяз выпіўкі й сьпеваў. Мой лепшы сябра, такі-ж выгнанец, як і я, таксама звольнены ў гэты час адшукаў маю хату, і мы разам зь ім выехалі неўзабаве ў сьвет шукаць шчасьця. Абодвум разам было лягчэй перамагаць нягоды лёсу. Праўда, у 1936 годзе яго зноў напаткала бяда: у лістападаўскія арышты беларускіх нацыянал-дэмакратаў яго зноў арыштавалі й асудзілі на дзесяцігадовае выгнаньне. Мяне-ж лёс мілаваў. Я працаваў выкладчыкам, закончыў асьвету, дамогся навуковых ступеняў. І ўсё дзякуючы таму, што мяняў мейсцы жыхарства і хаваў сваё мінулае, якое на пачатку гэтак перашкаджала мне. Напярэдадні вайны я ўжо быў зноў у родным горадзе. Працаваў прафэсарам у інстытуце. У першыя-ж дні вайны быў арыштаваны, як палітычна-ненадзейны. Вялі этапам на ўсход. Уначы ўцёк, вярнуўся ў Менск. А тут ужо Немцы. Хутка забралі на працу ў Нямеччыну. Праз гэтую новую няволю апынуўся ў амэрыкан-

